# БАЦЬКАЎШЧЫНА

WHITERUTHENIAN WEEKLY „THE FATHERLAND“ Цана 30 н. фэн.

№ 26 (29) 5 ВЕРАСЬНЯ 1948 Г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 2

## У НАПРУЖАНЫМ ЧАКАНЬНІ

### У МАСКВЕ Й БЭРЛІНЕ ЯШЧЭ ГАВОРАЦЬ

**Як афіцыяльна паведамлена, 31.8.48 пачаліся ў Бэрліне першыя ад чатырох месяцаў нарады губэрнатараў акупацыйных вайсковых уладаў ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі й СССР. Тэмай нарадаў ёсьць спыненьне савецкай блякады Бэрліну коштам устанаўленьня супольнай валюты для цэлага Бэрліну, якой мела-б быць усходняя нямецкая марка, кантраляваная акупацыйнымі ўладамі 4-ох дзяржаваў. Паведамлена таксама, што размовы будуць прадаўжацца. Дыпляматычныя колы Вялікабрытаніі паведамляюць, што нарады ёсьць вынікам некаторых пагадненьняў маскоўскай канфэрэнцыі, якая ўжо адбываецца ад даўжэйшага часу й прабег якой трымаецца пакуль што ў поўнай тайніцы.**

Як ведама, справа блякады Бэрліну, якая была савецкай супрацьмерай на правядзеньне заходнімі гаспадарствамі грашовай рэформы ў сваіх зонах Нямеччыны, давяла да найвастрэйшага напружаньня паміж нядаўнымі саюзьнікамі й сталася найвялікшай палітычнай падзеяй апошняга часу, якая ўважалася ўсім сьветам за непасрэдную загрозу міру.

У сувязі з заблякаваньнем Бэрліну, заходнія гаспадарствы ад даўжэйшага часу былі змушаныя кантактавацца з Бэрлінам паветраным шляхам, каб пракарміць і забясьпечыць усім неабходным свае акупацыйныя арміі й два з палавінаю мільёнаў нямецкага насельніцтва. Хаця паветраныя даставы адбываліся спраўна й бесьперапынна, у чым здало бліскучы экзамен амэрыканскае й вялікабрытанскае лётніцтва, аднак такія мерапрыемствы — само сабой зразумела — даўжэйшы час трываць не маглі-б. І англа-саксам не аставалася нічога іншага, як праламаць блякаду збройнымі сіламі, г. зн. распачаць вайну, або пакарыцца перад Саветамі й зусім пакінуць Бэрлін. Аднак афіцыйныя дзейнікі заходніх гаспадарстваў станоўка заявілі, што яны Бэрліну не пакінуць. Ды гэта й зразумела, бо пры такой «капітуляцыі» перад Саветамі аўтарытэт ЗША і Вялікабрытаніі вельмі падупаў-бы, што йшчэ больш заахвоціла-б Савецкі Саюз да далейшых агрэсыўных хадаў.

Ды й Саветы ўва ўсей гэтай справе мелі глыбейшыя й шырэйшыя мэты, а ня толькі каб адпомсьціць за правядзеньне, незалежна ад іх, грашовай рэформы. Асноўным іхным імкненьнем было выціснуць зусім заходнія гаспадарствы з Бэрліну, каб пазбавіцца непажаданага канкурэнта за зялезнай заслонай і мець магчымасьць бязь ніякіх перашкодаў рабіць у ўсходняй Нямеччыне ўсё тое, што яны робяць у сатэліцкіх гаспадарствах.

Такім чынам бэрлінскі канфлікт вырас да сусьветных разьмераў і лёгка мог стацца запальным пунктам трэйцяй сусьветнай вайны.

Заходнія гаспадарствы прадпрынялі аднак спробы разьвязаць бэрлінскае пытаньне дыпляматычным шляхам. З гэтаю мэтаю ўпаўнаважаныя ўрадаў ЗША, Вялікабрытаніі й Францыі ад даўжэйшага часу знаходзяцца ў Маскве й вядуць гутаркі з прадстаўнікамі савецкага ўраду. Дагэтуль адбылося ўжо многа такіх гутарак з Молатавым, а так-жа із Сталінам. Адна гутарка із Сталінам цягнулася цэлых пяць гадзін. Але ўжо сам факт, што маскоўская канфэрэнцыя зацягнулася, ейны прабег трымаўся ў поўнай тайніцы, прадугледжваны тэрмін апублікаваньня афіцыйнага камунікату аб канфэрэнцыі ўсьцяж адкладваўся, гаварыў за тым, што памысных вынікаў цяжка было спадзявацца.

І таму вестка, што, дзякуючы бліжэй няведамым пагадненьням на маскоўскай канфэрэнцыі, пачаліся ў Бэрліне гутаркі кіраўнікоў акупацыйных уладаў усіх чатырох гаспадарстваў, абнадзеіла сусьветную апінію, якая прабуе расцэньваць гэты факт, як выразны пачатак адпружаньня ў бэрлінскім канфлікце.

Калі яно й запраўды так ёсьць, дык гэта азначала-б, што часовы выхад з палажэньня знойдзены, — хоць яшчэ няведама, як вялікім коштам — і што вайна за Бэрлін пакуль што не пачнецца.

### ЗЬМЕНА ФРАНЦУСКАГА ЎРАДУ

Францускі ўрад Мары 29.8.48 ў сувязі з разыходжаньнямі што да гаспадарскай і фінансавай праграмы падаўся да дымісіі. Урад Мары, пакліканы толькі 26 ліпеня, быў дзесятым францускім урадам ад часу вызваленьня Францыі. Асноўнай праблемай нязгоды, із за якой адыйшоў дасюлешні ўрад, было пытаньне вышыні заработнай платы ў Францыі. Даручэньне стварыць новы ўрад атрымаў сацыялісты Рамад'е, аднак апошні ад гэтага адмовіўся. Тады прэзыдэнт запрапанаваў стварыць урад быўшаму прэм'еру Шуману.

Шуман згадзіўся стварыць новы ўрад пад умоваю, што атрымае для сябе давер ад Нацыянальнага Сабраньня. Гэты давер ён ужо атрымаў.

Аднак у вапошнюю хвіліну паведамлена, што й Шуман ад сваей місіі стварэньня ўраду адмовился.

### ЗАЯВА КАНДЫДАТА НА ПРЭЗЫДЭНТА ЗША

Кандыдат рэспубліканскай партыі на прэзыдэнта ЗША Томас Э. Дуі заявіў, што ён у сваей перадвыбарнай кампаніі будзе высоўваць два галоўныя пункты сваей прэзыдэнцкай праграмы:

1. Ліквідацыя бязьдзейнасьці ў апараце фэдэральнага кіраўніцтва і **змаганьне з камунізмам.**
2. Вядзеньне цьвёрдай вонкавай палітыкі ЗША, якая ясна пакажа ўсяму сьвету, што Задзіночаныя Штаты гатовы прыняць на сябе ролю сусьветнага абароньніка міру.

Дуі абяцае, што 20 студзеня будучага году (дзень пераняцьця новым амэрыканскім прэзыдэнтам выконваньня сваіх абавязкаў) адбудзецца ў Вашынгтоне найвялікшая ў гісторыі ЗША чыстка ўрадавага апарату.

## АПОШНІМ ЧАСАМ

— Урад Вялікабрытаніі пастанавіў паклікаць вялікі штаб спэцыялістых для апрацаваньня мерапрыемстваў абароны перад бактэрыялягічнай вайной.

— Ад верасьня будуць рэгулярна адходзіць транспарты з жыдоўскімі сем'ямі з Амэрыканскай зоны Нямеччыны ў Ізраэль. Транспарты, што будуць адходзіць кажны тыдзень, абоймуць у сярэднім па 500—700 асоб.

— Апошнімі днямі зробленыя захады прызнаць савецкай настаўніцы Касенкінай амэрыканскае грамадзянства, каб такім чынам канчальна вызваліць яе з пад кантролі савецкіх уладаў. Стан здароўя Касенкінай папраўляецца й яна ў хуткім часе мае выступіць на прэсавай канфэрэнцыі.

— Вялікабрытанскі міністар вайны ў сваей прамове 1.9.48 заклікаў яшчэ 100.000 ахвотнікаў да дапаможнай службы ў тэрытарыяльнай арміі.

### НОВАЯ КАРАЛЕВА ГАЛЯНДЫІ

Галяндзкая каралева Вільгэльміна, якая 31 травеня з прычыны хваробы адыйшла ад выконваньня сваіх каралеўскіх абавязкаў, у панядзелак прыняла зноў на 6 дзён выконваньне сваіх функцыяў. У гэты час адбудзецца сьвяткаваньне 68-ай гадавіны нараджэньня каралевы й 50-ай гадавіны ейнага панаваньня, пасьля чаго,, 4 верасьня, яна афіцыйна адмовіцца ад трону. У гэты-ж дзень ейная дачка княгіня Юльяна будзе праклямавана каралевай Галяндыі. Урачыстая каранацыя новай каралевы адбудзецца 6 верасьня ў Амстэрдаме.

### ПАМЁР БЭНЭШ

Былы даўгалетні чэхаславацкі прэзыдэнт др. Бэнэш, які нядаўна ў сувязі із саветызацыяй Чэхаславаччыны зрокся свайго становішча, цяпер — згодна афіцыйнага камунікату чэхаславацкага ўраду з 31.8.48 г. —цяжка захварэў. Як падало чэхаславацкае радыё, 3.9.48 ўвечары Бэнэш памёр.

### СЬМЕРЦЬ ЖДАНАВА

Як афіцыяльна паведамлена з Масквы, 31.8.48 памёр выдатны бальшавіцкі дзеяч, арганізатар Камінформу й сакратар Цэнтральнага Камітэту Камуністычнай Партыі СССР — Андрэй Жданаў. Жданаў пражыў 52 гады. 5 спэцыяльных лекараў сьцьвердзіла, што памёр ён на хваробу крыві і склярозу. Дзень 1-га верасьня ў сувязі з гэтым ува ўсім Савецкім Саюзе быў абвешчаны днём жалобы. Жданаў будзе пахаваны на Чырвоным пляцы ў Маскве пры маўзалеі Леніна. Некатарая загранічная прэса ўжо камэнтуе, што сьмерць Жданава ня была натуральнай.

### ТЫТО ЎМАЦОЎВАЕЦЦА

31.8.48 адбылася ў Югаславіі зьмена ўраду, якая значна ўзмоцніла палажэньне Тыто. Заступнік прэм'ера Кардэль пераняў, пры захаваньні дасюлешняга становішча, міністэрства замежных справаў. Міністар нутраных справаў Ранковіч стаўся другім віцэ-прэм'ерам. Трэйці віцэ-прэм ер Нэсковіч, сябра югаслаўянскага палітбюра і сэрбскі прем'ер, пакліканы на старшыню кантрольнай рады югаславянскай фэдэрацыі.

Замена дасюлешняга міністра замежных справаў Сіміча Кардэлем ёсьць адказам на стараньні Масквы, каб паміж Тыто й Кардэлем загнаць клін:

Лёнданскія палітычныя абсарватары Щ паводля Дэна-Рэйтар — уважаюць зьмену югаславянскага ўраду за супрацьмеры маршала Тыто на сыстэматычныя атакі камінформу.

### АД РЭДАКЦЫІ

**Пасьля даўжэйшага перапынку, выкліканага фінансавымі цяжкасьцямі ў сувязі з грашовай раформай у Нямеччыне і патрэбаю падшуканьня новае друкарні, выпускаем наступны нумар «Бацькаўшчыны» зь вераю й надзеяй, што ў далейшым нашая газэта будзе ўжо паяўляцца рэгулярна. Гэта будзе залежыць ня толькі ад Рэдакцыі, якая будзе старацца ўсімі сіламі ўтрымаць нашую газэту, але таксама й ад нашых чытачоў і ўсяго беларускага грамдзянства наагул.**

**Рэгулярнае аплачваньне газэты й большае матарыяльнае падтрыманьне тых нашых суродзічаў, што маюць магчымасьць пазволіць сабе на гэта, зьяўляецца першай і асноўнай перадумовай рэгулярнага выхаду газэты. Моцна верым, што нашае грамадзянства патрапіць здабыцца на гэтую ахвярнасьць, дакладна разумеючы, што гэтая адзіная нашая друкаваная газэта зьяўляецца бадай што найважнейшай нашай нацыянальнай пазыцыяй на эміграцыі.**

**Адначасна паведамляем, што пэрсанальны склад Рэдакцыі зьмяніўся і ўжо гэты нумар паяўляецца пад новым рэдактарскім кіраўніцтвам.**

**Рэдакцыя ў будучыні будзе старацца пайсьці на спатканьне ўсім тым зычэньням і жаданьням нашых чытачоў і грамадзянства, каб газэта, захоўваючы й надалей высокі ідэалягічны ўзровень і станоўка бароначы нацыянальна-незалежніцкія інтарэсы беларускага народу, сталася больш даступнай, зразумелай і цікавай для шырэйшых масаў беларускае эміграцыі.**

**Перапрашаючы на гэтым месцы нашых паважаных чытачоў за доўгі перапынак у выхадзе газэты, адначасна яшчэ раз падкрэсьліваем нашую гарачую просьбу да іх — належна падтрымаць «Бацькаўшчыну».**

## СПЛАЧВАЙМА НАШ ДОЎГ!

Мы беларусы, што ў выніку вайны і паўторнай акупацыі нашае Бацькаўшчыны маскоўскім бальшавізмам апынуліся на чужыне, зьяўляемся ўсе палітычнымі эмігрантамі. Тут не адыгрывае ніякай ролі факт, ці нехта быў прымусова вывезены немцамі на працу, высланы ў канцэнтрацыйны лягер, прымусова эвакуаваны, ці выехаў дабравольна перад наступам савецкай арміі. Сяньня важным і вызначальным мамэнтам зьяўляюцца прычыны нашай адмовы павароту на Бацькаўшчыну.

Гэтыя прычыны ёсьць чыста палітычныя й аднолькавыя для ўсіх: жаданьне ўратавацца ад масавага палітычнага тэрору, ад фізычных і маральных катаваньняў, ад мучаніцкай сьмерці ў савецкіх турмах ці канцэнтрацыйных лягерах прымусовае працы, куды, як ведама, трапляюць цэлыя мільёны нявінных людзей толькі за тое, што для бяздушных бальшавіцкіх экспэрыментаў зьяўляюцца нявыгоднымі.

Паколькі тады мы ўсе — адныя сьведама, а другія сілаю фактаў — сталіся палітычнымі эмігрантамі, гэтым самым мусім прыняць на сябе й усе тыя абавязкі, што звычайна ўскладаюцца на палітычныя эміграцыі наагул.

Палітычная эміграцыя — гэта такая катэгорыя людзей, што, не згаджаючыся з палітычным рэжымам, заведзеным на бацькаўшчыне, ды будучы ім загрожаная, ідзе на выгнаньне, пераважна дабравольна, каб на чужыне дэманстраваць прасьледваныя на бацькаўшчыне ідэі й змагацца за іхнае ажыцьцяўленьне. Людзі, што за ідэю дабравольна пакідаюць свой край, выракаюцца асабістага шчасьця й ідуць на выгнаньне, дзе іх чакае незавіднае жыцьцё й невядомая будучыня, выяўляюць гэтым вялікі духовы гарт, сілу волі й нязштодзённыя маральныя вартасьці. Такім чынам з паняцьцем палітычных эмігрантаў само сабой неразьдзельна вяжацца паняцьце высока вартасных з духовага гледзішча людзей.

У якім-жа тады сьвятле выглядаем мы, беларусы на чужыне, і ці адказваем гэтаму высокаму званьню палітычных эмігрантаў?

Гэтае пытаньне павіна прымусіць нас глыбей задумацца над нашай роляй і заданьнямі на чужыне, перагледзіць і паддаць рэвізіі дасюлешнія нашыя паводзіны ды прывесьці нас да моцных і канкрэтных пастановаў.

Мы сталіся палітычнымі эмігрантамі і адмовіліся вярнуцца на Бацькаўшчыну дзела таго толькі, каб пазбавіцца тых мукаў і цярпеньняў, якія сталіся сяньня ўдзелам ня толькі асабіста нам найбліжэйшых пакінутых там бацькоў, братоў і сваякоў, але й усяго беларускага народу наагул. Мы ўсе, даўжэй ці карацей знаходзячыся пад бальшавіцкай няволяй, былі навочнымі сьветкамі й непасрэднымі ўдзельнікамі ўсіх жахаў бальшавіцкага зьдзеку, а таму дакладна здаём сабе сяньня справу з таго бязвыхаднага палажэньня, у якім знаходзіцца беларускі народ. Ведаем таксама,

што гэты народ ня толькі цягне ярмо няволі, тоючы ў глыбіні душы сваей бязьмежную нянавісьць да акупанта, але й здабываецца на гэройскія чыны, змагаючыся зь ім. Перадавая частка народу — беларускія партызаны хапіліся за аружжа, каб адпомсьціць за ўсе народныя крыўды, ведаючы пры гэтым, што тым больш незавідны за гэта чакае іх лёс.

І вось усьведамленьне сабе таго палажэньня, што пануе на бацькаўшчыне і ў якім знаходзіцца наш народ, павінна стацца вызначальным мамэнтам нашае працы й нашых паводзінаў на чужыне.

Многія сяньня ўважаюць, што сам факт іхнага прымусовага выгнаньня зьяўляецца ўжо свайго роду геройствам і дастатко́ва іх апраўдывае перад тымі, што змушанымі былі астацца на Бацькаўшчыне. Дзеля гэтага ў сваім эгаізьме й самалюбстве думаюць толькі аб сабе, стараючыся, як найлепш уладзіцца ды спакойна й бястурботна перачакаць час, калі будзе магчыма вярнуцца назад.

У розных і няроўных умовах апынуліся нашыя людзі на чужыне цяпер, яшчэ больш розныя й няроўныя ўмовы жыцьця іх спаткаюць у найбліжэйшай будучыні. Але найгоршае палажэньне на эміграцыі ёсьць і будзе без параўнаньня куды лепшым за найлепшае на Бацькаўшчыне, пакуль там будзе рабіць свае злачынныя экспэрымэнты маскоўска-бальшавіцкі акупант.

Таму ўсе тыя, каму пашчасьціла вырвацца з бальшавіцкага пекла, не павінны забывацца аб беларускім народзе й ягоных патрэбах, змагацца й працаваць у тым кірунку, які вядзе да вызваленьня нашае Бацькаўшчыны й адбудовы собскае дзяржаўнасьці. Гэта абазначае, што мы, як палітычныя эмігранты, павінны ўзброіцца ўсімі тымі якасьцямі, якія мусяць характарызаваць палітычных эмігрантаў наагул.

Беларуская нацыянальна-вызвольная праблема яшчэ маладая й мала ведамая заходняму сьвету, ад якога ў вялізарнай меры залежыць наш будучы лёс. Прыпомнім сабе, як посьле развалу гітлераўскай Нямеччыны сярод прадстаўнікоў акупацыйных уладаў і ўрадаўцаў УНРРА амаль зусім ня ведалі аб нас, як прадстаўнікох самастойнага й вялікага народу. Нас усюды й бадай заўсёды зьмешвалі з расейцамі, «белымі расейцамі», да чаго ня мала ,як ведама, прычыніўся й наш нацыянальны назоў. З намі не хацелі гаварыць, як з асобнай нацыяй, і заспакойваць нашых слушных патрэбаў.

Гэтак было тры гады назад. А сяньня? Палажэньне зусім зьмянілася. Сяньня нас ведаюць, нас цэняць, і з намі лічацца. Каб гэтага дапяць, трэба было прарабіць вялізарную й няўдзячную работу, трэба было пісаць, езьдзіць, стукацца, прасіць, а галоўнае — пераконваць, і то пераконваць ня толькі на словах, але й на фактах, у канкрэтнай арганізаванай працы. Такім спосабам першыя масты для нашага «выхаду ў людзі» былі пралажаныя. І гэта ўсё зрабіла невялічкая жменька адданых справе й сьведамых сваіх заданьняў людзей, якія, ня гледзячы на ўсякія труднасьці, прыкрасьці, а ня рэдка й асабістую небясьпеку, рабілі, што маглі.

А ў сколькі-ж разоў былі-б большыя вынікі нашае працы і на колькі беларуская нацыянальная справа на эміграцыі стаяла-б выжэй і салідней, калі-б ня толькі жменька, а ўсе беларусы ўключыліся ў творчую арганізацыйную працу і кажны, паводля сваіх сілаў і магчымасьцяў, стараўся чэсна й сумленна сплачываць свой доўг перад народам? Адказваць на гэтае пытаньне будзе лішнім. Няхай у душы адкажуць на яго ўсе тыя, што зь недаверам і абыякавасьцю прыглядаліся толькі да гэтае працы і, стоячы з боку, чакалі, што з гэтага выйдзе. Але няхай таксама адкажуць і ўсе тыя, што, называючы сябе сьведамымі беларусамі й нат» беларускімі дзеячамі», ня толькі нічым не прылажыліся да супольнай нацыянальнай справы, але сьведама й злосна падстаўлялі нагу — і падстаўляюць сяньня — усім тым, што ў гэтую працу ўпрагліся.

Прыведзены прыклад аб выніках дасюлешняй нацыянальнай працы беларускай эміграцыі паказвае, што многа ўжо дагэтуль зроблена, але ня менш пераконвае й аб тым, што куды больш яшчэ зрабіць асталося ў кажнай дзялянцы нашага эміграцыйнага жыцьця, як і ў галіне нашых вонкавых дачыненьняў зь іншымі народамі і перад заходнім сьветам.

Сярод іншанацыянальных эміграцыяў існуе пагляд, што кажны палітычны эмігрант дадзенае нацыянальнасьці зьяўляецца свайго роду амбасадарам свайго народу сярод заходня-дэмакратычнага сьвету. Правільней нельга й азначыць тых запраўды вялізарных заданьняў, што ўскладваюцца на нас, як палітычных эмігрантаў. Бо як мы сябе пакажам перад сьветам, якімі сябе прадставім у вачох іншых народаў, так будуць думаць і аб цэлым нашым народзе й так яго ацэняць. Якую мы правядзём працу перад адказнымі дзеінікамі захаду, у такой меры й будзе разьвязанае імі ў будучыні нашае пытаньне.

І ў гэтым нашым зарэпрэзэнтаваньні самых сябе на чужыне перад іншымі народамі, у настойлівай і энэргічнай абароне нашых нацыянальных інтарэсаў і праваў перад сьветам і заключаецца наш доўг перад беларускім народам і Бацькаўшчынай.

## ПЕРШЫ НЯМЕЦКІ ПАРЛЯМАНТ

1-га верасьня сёлета ў Бон адкрылася першае парлямэнтарнае паседжаньне Нямеччыны. Гэта ёсьць першы нямецкі парлямант ад разьвязаньня Райхстагу Гітлерам пасьля перанясьця ім улады. Аснаўным заданьнем нарадаў у Бон будзе прыняцьце часовае канстытуцыі Нямеччыны.

# НАБЫВАЙЦЕ ПРАФЭСІІ!

Як ведама, пры выэміграваньні зь Нямеччыны, як і пры атрыманьні лепшай і больш аплачванай працы ў краіне новага пасяленьня, карыстаюцца вялікай перавагай тыя перамяшчэнцы, што маюць якую-небудзь прафэсію. Гэтую прафэсію яны маглі здабыць яшчэ на бацькаўшчыне, працуючы ў данай галіне працы, або здабылі тут у Нямеччыне, праходзячы адпаведныя курсы пры ІРО.

Як паказала ўжо эміграцыйная практыка, прафэсія пры выезьдзе зь Нямеччыны мае вялізарнае значэньне. Найчасьцей яна зьяўляецца найважнейшай перадумовай, каб таго або іншага прынялі на выезд у краіну, дзе ён хоча асяліцца. Бываюць вельмі частыя выпадкі, калі людзей, навет зусім маладых і здаровых, многія краіны ня прыймаюць толькі таму, што яны ня маюць ніякае прафэсіі.

Ведама таксама, што калі хто без адпаведнае прафэсіі выэмігруе ў тую ці іншую краіну, то ён атрымлівае там найцяжэйшую й найгоршаплатную працу. Затое людзі, што маюць адпаведныя прафэсіі, працуюць куды лягчэй і значна больш зарабляюць.

Сярод беларусаў, як і наагул народаў Усходняе Эўропы, трэба прызнацца, да розных тэхнічных прафэсіяў адносіліся неахвотна, а нярэдка навет з пагардай. Такой выгаднай працай, як рознага роду рамясло, у нас займаліся пераважна людзі іншых нацыянальнасьцяў, найчасьцей жыды.. Беларусы-ж у сваім традыцыйна- сялянскім консэрватызме ўважалі, што іхным, бадай што адзіным прызваньнем ёсьць араць і засяваць бацькаўскую зямлю, а калі яе не ставала, дык ішлі на цяжкія работы, як рубаць лес ці капаць зямлю пры пракладаньні дарог, дзе вымагалася перадусім сіла мускулаў, а не ўменьне.

Гэткая ненармальная аднабаковасьць у падрыхтаваньні нашых людзей да працы на Бацькаўшчыне заўважаецца і на эміграцыі. Тымчасам, як сказана вышэй, мець тую або іншую прафэсію адыгрывае першарадную ролю пры выэміграваньні. І чаго нам не ўдавалася здабыць на Бацькаўшчыне, можам гэта, і то часамі вельмі лёгка, мець тут.

Гэтым нашым вельмі важным патрэбам шырака йдзе на спатканьне ІРО, якое ўвесь час арганізуе і ўсьцяж павялічвае кароткатэрміновыя й даўжэйшыя курсы для здабыцьця і ўдасканаленьня набытых раней кваліфікацыяў, як шаўцоў, краўцоў, сьлёсараў агароднікаў, рознага роду мэханікаў і майстроў. Пасярод гэтых кваліфікацыяў ёсьць і такія, што не вымагаюць асаблівага ўменьня, а патрабуюць толькі набыцьця адпаведнае спраўнасьці. Іх здабыць вельмі лёгка. А такія курсы, куды можна запісацца, існуюць цяпер пры кажнай Арыі ІРО.

Значыцца магчымасьці ёсьць вялікія, толькі трэба мець ахвоту і жаданьне іх выкарыстаць. А галоўнае трэба перамагчы ў сабе перанятую ад бацькоў і дзядоў абыякавасьць і неахвоту да здабываньня ўсякіх тэхнічных прафэсіяў. А гэтая неахвота, нажаль, ёсьць, і то вялікая. Нярэдкія былі выпадкі ў нашых беларускіх лягерах, калі прысыланыя зь ІРО і так сьціплыя кантынгенты на розныя тэхнічныя, зразумела бясплатныя, курсы не выкарыстоўваліся, бо ня было ахвотнікаў, бо нашыя людзі, пераважна моладзь, ахватней марнавалі час на прыкрае гультайства, замест каб думаць аб сваей будучыні.

Дзеля гэтага пара ўжо сур'ёзна задумацца аб сваей будучыні, аб тым, каб быць чалавекам поўнавартасным і карысным так для сябе асабіста, як і ўсяго грамадзянства. Беларуская інтэлігенцыя, як больш сьведамы элемэнт грамадзянства, павінна ў гэтым кірунку правесьці адпаведную прапагандовую акцыю.

**А. М.**

## УЗМОЦНЕНЫ ЦІСК НА ТЫТО

Лёнданская газэта «Івнінг Ньюс» падала, што «ў Маскве вядуцца падрыхтаваньні, каб інсцэнізаваць у Югаславіі дзяржаўны пераварот і замяніць тытаўскі рэжым прававерным сталінскім урадам». Сталін загадаў стварыць з варожых да Тыто югаслаўскіх камуністых «Камітэт вольнай Югаславіі» і на наступніка Тыто прызначыў генэрал-палкоўніка Данчэвіча, які нядаўна быў уцёк у Румынію і прабывае цяпер быццам у Маскве.

Быццам у сувязі з гэтым адбываюцца цяпер у Румыніі вялікія перасоўваньні савецкай арміі. На думку заходніх дыпляматычных прадстаўнікоў, савецкае войска магло-б вырушыць цераз Румынію ў выпадку, калі-б Саветы былі вымушаны ўжыць сілу супраць Тыто. Некаторыя з заходніх дыпляматаў лічацца з магчымасьцю, што Румынія будзе прылучаная да Савецкага Саюзу, каб стварыць апошняму непасрэдную мяжу із непаслушнай Югаславіяй. Наагул уважаецца, што Саветы за ўсякую цану будуць старацца паваліць Тыто. Ён мае ў сваім распараджэньні армію ў 412.000 чалавек, мае ваенную практыку, асабліва ў партызанскай вайне, і напэўна будзе бараніцца. Але слабае югаславянскае лётніцтва ня можа стацца выдатнейшай перашкодай для апэрацыяў савецкай арміі.

Згодна вестак Вашынгтону, што падпольным шляхам праніклі з за зялезнае заслоны, Саветы й далей гатуюцца да бліжэй няведамых захадаў. Гэтак чэхаславацкі ўрад быццам атрымаў з Масквы загад падгатаваць на захадзе Чэхаславаччыны рад вайсковых памяшчэньняў для прыняцьця савецкай арміі. Таксама на ўсходзе ад савецкай мяжы апошнім часам прыгатована 15 новых лётнішчаў, на якіх ужо знаходзяцца савецкія бамбавікі.

Ангельская кансэрватыўная газэта «Ёркшыр Пост» піша, што на выпадак, калі-б маршалу Тыто ўдалося абараніць свой край і не дазволіць Саветам яго апанаваць, яго будуць славіць ,як абаронніка свабоды ў Усходняй Эўропе. Яго захопніцкія пляны, — асабліва ў дачыненьні да Трыесту, працівіліся пачуцьцю права заходніх дзяржаваў. Але ў цяперашнім змаганьні за незалежнасьць ён цешыцца сымпатыяй кажнага разумнага чалавека.

## КАРОТКІЯ ВЕСТКІ

— Калішні баўгарскі кароль Фэрдынанд, які налічвае сяньня 87 год, зьвярнуўся да сваіх прыяцеляў у Амэрыцы з просьбаю прысылаць яму пачкі з прадуктамі. Кароль пражывае цяпер у Кобургу й падчас апошняй грашовай рэформы страціў усе свае ашчаднасьці.

— На працягу 60 дзён давозу самалётамі прадуктаў у Бэрлін амэрыканцы зрабілі 4.544 пералёты й прывезьлі 89.765 тон розных тавараў. У тым самым часе адбылося 11.946 брытанскіх пералётаў з 65.000 тон тавараў.

— Паведамленьне прэз. Трумана, што жанатыя ня будуць паклікацца да вайсковай службы, павялічыла колькасьць жадаючых жаніцца. У Брукліне ў чарзе перад цывільным урадам дайшло да бойкі й мусіла інтэрвэньяваць паліцыя.

— Камуністыя ў Трыесьце пастанавілі выключыць із сваей партыі ўсіх прыхільнікаў Тыто.

— Калішні галоўнакамандуючы амэрыканскай авіяцыі ген. Спац заявіў, што амэрыканцы першыя павінны выпрадукуваць такі самалёт, які завёз-бы атомную бомбу із хуткасьцю чалавечага голасу на адлегласьць 8.000 клм.

— Задзіночаньне амэрыканскіх вэтэранаў (амэрыканскі легіён) запрапанавала сваім сябром ня ўжываць слова «таварыш», бо яго ўжываюць камуністыя.

## РЭХА ВЫПАДКУ З КАСЕНКІНАЙ

Вялікай палітычнай сэнсацыяй апошняга часу быў трагічны выпадак із савецкай настаўніцай Касенкінай, якая, ратуючыся перад пераследваньнямі НКВД, выскачыла з трэцяга паверху савецкага канзуляту ў Нью-Ёрку і цяпер знаходзіцца ў цяжкім стане ў шпіталі пад апекаю амэрыканскае паліцыі. Гэтаксама амэрыканская паліцыя заапякавалася й другім савецкім настаўнікам М. Самарыным, які ўцёк з савецкага канзуляту ў Нью-Ёрку, абы толькі не вяртацца ў Савецкі Саюз.

Гэты выпадак глыбака ўскалыхнуў сусьветнай апініяй і яшчэ сяньня ня сходзіць з балонаў ня толькі ньюёрскай і амэрыканскай прэсы, але й прэсы ўсяго сьвету. На гэтую тэму «Нью-Ёрк Таймс» піша: «Нам будзе карысна прыпомніць, што страх, што напаўняў сэрца Касенкінай, зьяўляецца толькі часткаю таго страху, які напаўняе сэрцы людзей, што жывуць за зялезнай заслонай. Із вялізарнага «дому страху» амаль што няма ратунку. У самым Савецкім Саюзе вырасла цэлае пакаленьне, якое нічога ня ведае аб вонкавым сьвеце. Але страх існуе — страх гаварыць, страх перад незнаёмым, страх, што навет думкі могуць стацца нявыгоднымі, або — што чалавека можа згубіць прыпадкова сказанае слова. Мы павінны з усей станоўкасьцю заявіць дыпляматам Савецкага Саюзу, што яны ня маюць права тварыць на нашай зямлі турмы і замыкаць у ей асобаў, якія ня ёсьць праступнікамі.

Інцыдэнт з Касенкінай выклікаў цэлы рад камэнтараў, разважаньняў, закідаў і абвінавачаньняў бальшавіцкае сыстэмы гвалту й нячуванага ў сьвеце тэрору. Але таксама стаўся ён непасрэдная прычынай закідаў і заходня-дэмакратычнаму сьвету, які, імкнучыся за ўсякую цану наладзіць з Саветамі добрасуседзкія дачыненьні, замыкае вочы на ўвесь той жах і зьдзек, што робіцца над безбароннымі й нявіннымі людзьмі па той бок зялезнай заслоны.

Гэты выпадак быў прычынай цэлай дыпляматычнай акцыі паміж ЗША і СССР і прывёў навет да крытычных мамэнтаў у дыпляматычных дачыненьнях гэтых гасударстваў. Адбыліся вымены нотаў, потым Дзяржаўны Дэпартамант ЗША зажадаў ад СССР адкліканьня генэральнага савецкага консула Я. Ламакіна, уважаючы ягоныя паводзіны ў інцыдэнце з Касенкінай за нетактоўныя.

У вадказ на гэта Савецкі ўрад пастанавіў безадкладна закрыць свае канзуляты ў Нью-Ёрку й Сан-Францыско, а таксама зьвярнуўся да ўраду ЗША, каб ён уважаў за закрыты свой канзулят у Уладывастоку. Апрача гэтага СССР сарваў умову аб адкрыцьці амэрыканскага канзуляту ў Ленінградзе.

## ГРЭЦЫЯ ВЫРАТАВАНАЯ АД ЧЫРВОНАЕ ЗАГРОЗЫ

На думку амэрыканскіх і грэцкіх вайсковых колаў, маленькі кусок тэрыторыі, які яшчэ ўздоўж альбанскае граніцы знаходзіцца ў руках партызанаў Маркоса, хутка будзе ачышчаны ад паўстанцаў. Паводля паведамленьня грэцкай інфармацыйнай службы, Маркос, які перабывае на тэрыторыі Альбаніі, прыгатаўляе перагрупаваньне сваіх сілаў, каб стварыць на ўсход ад Грамосу новую «вольную Грэцыю». «Нью-Ёрк Гэральд Трыбюн» расцэнівае раптоўную зьмену на палепшаньне ваеннага становішча ў Грэцыі, як вынік амэрыканскае вонкавае палітыкі. «Грэцыя выратаваная ад заходняга сьвету й савецкая кантроля ўсяго ўсходняга пабярэжжа Міжземнага мора адкінута» — піша газэта.

Генэральны Штаб грэцкіх урадавых войскаў апошнім часам падаў да ведама, што партызанскі супраціў у горах Грамос поўнасьцю зламаны. Недабіткі партызанаў, энэргічна праследваныя ўрадавымі войскамі, уцікаюць далей на поўнач.

# Зь Беларускага Жыцьця

### БЕЛАРУСКАЯ ПРАЦА Ў АРГЕНТЫНЕ РАЗГОРТВАЕЦЦА

Згуртаваньне Беларусаў у Аргентыне, хаця памалу, але ўсё разрастаецца й патроху аб'ядньвае беларускія нацыянальныя сілы. Апошнім часам пад'ехалі Беларусы з Англіі й Італіі, такім чынам пабольшваецца новая эміграцыя, а гэтым самым і актыў арганізацыі. Прайшло ўжо 5 месяцаў, як існуе арганізацыя, а толькі цяпер заўважваецца пачатак яе існаваньня. За гэты час тут у Аргентыне прароблена ўжо даволі вялікая праца. Кінена нацыянальнае зерне ў багатую аргентынскую зямлю, якое можа нам абяцаць вялікі плён.

Перадусім Згуртаваньне праводзіць прапаганду сярод старое эміграцыі, якая мае пагляды чырвоныя, дзякуючы сільнай працы савецкіх агентаў, ну й міліёнаў, якія сыпле сюды Савецкі Саюз. Прапаганда нацыянальная праводзіцца рознымі спосабамі; адным з іх ёсьць распаўсюджваньне беларускай прэсы сярод старой эміграцыі. І яны толькі цяпер пачынаюць цяміць, што беларуская мова — неаднолькавая з расейскай, і пачынаюць цікавіцца Згуртаваньнем у Аргентыне. Прызнакам гэтага ёсьць реакцыя Камуністычнага Саюзу Славянаў, які ў сваёй пресе пачынае атакаваць Згуртаваньне, асабліва посьле прамовы старшыні З.Б. А. на Украінскай Акадэміі у чэсьць паўшых гэрояў У. П. А., дзе ясна і канкрэтна былі выражаны мэты беларускага вызвольнага руху — змаганьне за незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі й салідарнасьць беларусаў з украінскім народам у змаганьні супроць бальшавіцкага гнёту.

З.Б.А. ужо вырабіла дазволы ўезду ў Аргентыну на 18 асоб з Даніі й на 3 асобы зь Нямеччыны. Цяпер высланы сьпісак на зацьверджаньне на 100 асоб зь Нямеччыны й на 11 з Бэльгіі. Ёсьць надзея, што яны будуць зацьверджаны й гэтыя людзі змогуць прыехаць у Аргентыну. Не малая помач аказана беларусам у пошуках сваіх родных і знаёмых ува ўсей Паўдзённай Амэрыцы.

Згуртаваньне навязала суседзкія адносіны з арганізацыямі другіх нацыянальнасьцяў у Аргентыне, як з украінцамі, летувісамі, славакамі й харватамі. ЗБА належыць да Лігі Антыкамуністычнай Паняволеных Народаў Эўропы, дзе мае свайго сталага прадстаўніка.

Згуртаваньне Беларусаў у Аргентыне складае вялікую падзяку ўсім беларускім арганізацыям і цэнтрам у Эўропе за дапамогу, аказаную З.Б.А., а асабліва радакцыі «Бацькаўшчыны», «Беларус на Чужыне» й «Божым Шляхам», за высланьні часапісаў, газэт і агульнае супрацоўніцтва з намі.

**Аргентынскі.**

### ВЫСТАЎКА Ў ВІНДЗІШБЭРГЭРДОРФЕ

Зь ініцыятывы мясцовага настаўніка ў беларускім лягеры ў Віндзішбэргэрдорфе 28 — 29 жніўня адбыліся дзьве выстаўкі. Першая была пад назовам «Выстаўка беларускага друкаванага слова», на якой паказаны былі ўсе амаль эміграцыйныя выданьні беларускага друку, а назовы часапісаў, газэт і кніжак паказалі наведвальнікам шмат чаго новага.

На другі дзень былі паказаны «ФатаграФіі зь беларускай грамадзкай дзейнасьці», на што злажылася шмат здымак з грамадзкага жыцьця на эміграцыі — беларускіх скаўтаў, вэтэранаў, школаў, эстраднага тэатру, з царкоўнага жыцьця й фатаграфіяў із спэцыяльных імпрэзаў сярод беларусаў у Нямеччыне.

У абодвух днях выстаўка выдзялялася нацыянальным беларускім характарам экспанатаў. Была мІж іншага задэманстраваная «Пагоня» ўсіх узораў, арнамэнты народнай вышыўкі й рэлігійныя абразкі беларускіх выданьняў. Частка фотоздымак прыпамінала нам з Бацькаўшчыны Вільню, Горадню, Слонім, Ляхавічы й інш.

Выстаўка была бясплатная й карысталася асаблівым зацікаўленьнем моладзі й дзяцей. Шкада толькі, што на запытаньні дзяцей ба школьных падручніках пры надыходзячым школьным годзе, немагчыма было адказаць нічога канкрэтнага.

У бліжэйшых месяцах плянуецца шмат другіх паказаў з нацыянальнага й культурнага жыцця, пакуль час і абставіны пазволяць нам прабываць у лагерах.

**Мясцовы**

## ДА ВЕДАМА БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДЗЯНСТВА

25-га ліпеня 1948 г. выйшаў чарговы інсынуацыйны пашквіль г. зв. «Беларускага Прадстаўніцтва«. Гэтым разам аб'ектам нападу зьявілася Гімназія ймя Янкі Купалы. Пашквіль выйшаў з ведамага пашквільнага бюра Віцьбіча ў Міхэльсдорфе.

Палеміка з такой якасьці творамі ня робіць нікому чэсьці. Але дзеля таго, што пашквіль пашыраецца сярод грамядзянства, а магчыма й па ўрадах IPO, дзеля таго, што вульгарна й цынічна бэсьціцца найпаважнейшая навучальная беларуская ўстанова на эміграцыі, Урад Згуртаваньня Беларускіх Настаўнікаў на Эміграцыі супольна із Школьным Інспэктаратам Беларускага Нацыянальнага Камітэту на Амэрыканскую Зону Нямеччыны вымушаны даць наступнае выясьненьне ў гэтай справе.

Як Гімназія ймя Янкі Купалы, так і пачатковая школа ў Міхэльсдорфе зьяўляюцца арганізуючымі цэнтрамі нашага школьніцтва на эміграцыі. Адгэтуль выйшлі школьныя навучальныя праграмы, тут укладаюцца падручнікі для навучаньня для ўсіх нашых школаў. Тут-жа пры Гімназіі ёсьць і цэнтр скаўтынгу, які на эміграцыі адыйграў ужо вельмі паважную нацыянальна-узгадавальную ролю сярод нашае моладзі. Таму гэтыя ўстановы і зьявіліся аб'ектам пагрому з боку ранейшае дывэрсыйнае «Міжлягернае Рады», а цяперашняга яе спадкаемцы, г. зв. «Беларускага Цэнтральнага Прадстаўніцтва».

Спробы разбурэньня пачаліся з пачаткавай школы ў мінулым годзе. Гэтыя спробы не ўдаліся, дзякуючы цьвёрдай паставе бацькоў і заступніцтву ўлада IPO. Далей ідзе цэлы шэраг правакацыяў і нападаў на скаўтынг аж да адданьня кіраўнікоў скаўтынгу ў Амэрыканскі Суд, які іх апраўдаў, і аж да таптаньня скаўцкіх сцягоў уключна.

Пагром Гімназіі быў плянаваны ад даўжэйшага часу, а гэнэральны напад быў прызначаны на 15. VII. 1948 г. Фікцыйны «Школьны Камітэт», які створаны лягернай адміністрацыяй — вернай служкай зарубежніцтва — паклікаючыся на сваю пастанову ад 18. 5. 1948 г. прыслаў звальненьне Дырэктару Гімназіі сп. др. Орсу з патрабваньнем перадаць усе справы выкладчыку маляваньня ў Гімназіі Кругловічу. Апошні ня мае ніякай пэдагагічнай асьветы, а толькі сярэднюю тэхнічную. Адміністрацыя лягеру, якая фактычна інсьпіравала ўсю справу, праз каманданта Галожына заявіла аб сваей згодзе з пастановай «Школьнага Камітэту«. Новы «дырэктар« адразу прыступіў да ўкамплектаваньня «пэдагагічнага складу« Гімназіі, паклікаючы чатырох (з 13-ці) настаўнікаў гімназіяльных, якія ад такога «гонару» адмовіліся, а рэшту такіх самых неадпаведных людзей, як і сам. Тут цікава зацеміць, што па лягеры пайшлі дасьціпныя жарты, кшталтам таго, што «будзе ў нас Гімназія ймя Дзям'яна Беднага». Натуральная рэч, што бацькі вучняў зьвярнуліся да адпаведных уладў IPO із скаргай на ўчынкі адміністрацыі і з просьбай не дапусьціць да разгрому Гімназіі. На просьбу бацькоў прадстаўнікі IPO ў Рэгенсбургу 23. 7. 1948 г. правялі ў лягеры Міхэльсдорф рэфэрэндум у справе Гімназіі, на якім пры тайным галасаваньні двумя трэйцімі галасамі бацькоў было пастаноўлена захаваць Гімназію пры старым пэдагагічным складзе з дырэктарам др. Орсам начале.

Вось пасьля гэтага рэфэрэндуму й выйшаў успомнены 19-ты пашквіль «БІС», які «катэгарычна пратэстуе супраць умяшаньня дзейнікаў IPO ў нутраное жыцьцё беларускае гімназіі». Але ў тым-жа пашквілі «Прадстаўніцтва» заклікае пісаць пастановы, індывідуальныя лісты, і самым ісьці ў IPO ў Рэгенсбург і ў Арэа ў Амбэрг, каб патрабаваць пагрому Гімназіі. Шчытам нахабства й глупоты зьяўляюцца й тыя 14 пунктаў абвінавачваньняў, зьмешчаныя ў пашквілі.

Апраўдваць Гімназію ад няіснуючых заганаў, паданых у пашквілі, адказваць на подласьць, хлусьню, цынізм і нахабства, якія пераходзяць усякія граніцы, ня лічым патрэбным. Хіба-ж усе бацькі, якія жадаюць вучыць сваіх дзяцей у сваей Гімназіі, людзі нячэсныя, што дывэрсыйнае «Прадстаўніцтва» зварочваецца да якіхсь «чэсных» людзей, каб памаглі яму разбурыць Гімназію?

Хочам выясьніць толькі важнейшыя рэчы, зачэпленыя ў пашквілі, а найменна: абвінавачваньне школы ў «партыйнасьці» і ў «антырэлігійным узгадаваньні» вучняў.

1) Гімназія мае назоў «Беларуская Гімназія ймя Янкі Купала»; усе настаўнікі пад паглядам рэлігійным, спэцыяльна-навучальным і асабіста-маральным упоўнай беззаганнасьці, бо пры прыйме настаўнікаў бралася пад увагу не палітычнае перакананьне, а пэдагагічная падрыхтаванасьць. Ня было ніводнага выпадку, каб гімназія звольніла з працы настаўніка за яго палітычная перакананьні.

2) Для выкладаньня рэлігіі ў Гімназіі прызначаны сьв. а. Лапіцкі. Дзённыя заняткі пачыналіся й канчаліся малітваю. У сустрэчы Мітрапаліта Гімназія ня прыняла арганізаванага ўдзелу зь ведамай прычыны зрады Вышэйшай Герархіі Аўтакефальнай Беларускай Царкве, а тым самым зрады нашай нацыянальнай справе. Тым ня менш у часе прыезду заняткі спыніліся, каб вучні на сваё жаданьне ці на жаданьне бацькоў маглі прыняць удзел у сустрэчы.

У запраўднасьці Гімназія ймя Янкі Купала мае ўжо вялікую заслугу перад беларускім грамадзтвам. Доказам гэтага зьяўляецца ацэнка працы Гімназіі нямецкімі ўнівэрсытэтамі, якія прынялі абітурыентаў Гімназіі ўва ўсіх выпадках паступленьня; доказам гэтага зьяўляецца дзейнасьць вучняў, што выехалі ў Ангельшчыну (вядомая «Дванаццатка»), доказам гэтага зьяўляецца й той факт, што, ня гледзячы на правакацыйную дзейнасьць зарубежнікаў, на інспірацыю імі розных эксцэсеў, намаўляньне вучняў супраць настаўнікаў, у Гімназіі пануе адпаведная дысцыпліна й поўны лад.

Гімназія выпускае сьпелых, добра падрыхтаваных навукова й нацыянальна-сьведамых грамадзян, якія самі змогуць даць ацэну й такім зьявішчам, як дзейнасьць зарубежніцтва. Вось гэта й ёсьць сольлю ў воку зарубежнікаў, вось з гэтай прычыны яны й называюць ея партыйнай, заміж таго, каб назваць нацыянальнай; таму яны й намагаюцца яе разбурыць.

Аднак-жа мы пэўны ў тым, што тыя, да каго зварочваецца «БІС» з просьбай помачы дзеля разбурэньня Гімназіі, выступяць так, як і мы, з войстрым пратэстам супраць гэтага разбурэньня.

А настаўнікам Гімназіі застаецца пажадаць вытрымаласьці ў той запраўды цяжкай працы, якую ім трэба выконваць у атмасфэры варожага акружэньня, якое ёсьць цяпер у Міхэльсдорфе.

У канцы трэба зазначыць, што няпраўную пастанову аб звальненьні дырэктара Гімназіі Д-ра А. Орсы, які на працягу 20-ці год працаваў у сярэдніх беларускіх школах, узгадаваўшы некалькі пакаленьняў беларускае моладзі, падпісалі: М. Ігнатовіч, К. Вайцяхоўскі, Ф. Шыбут, М. Карповіч і Я. Мілевіч.

На чале з М. Ігнатовічам усе яны належылі да папяровай нябожчыцы Міжлягернай Рады, а цяпер зьяўляюцца сябрамі г. зв. «Цэнтральнага Беларускага Прадстаўніцтва», адміністрацыі лягеру і фікцыйнага Школьнага К-ту ў лягеры Міхэльсдорф.

Школьны Інспэктар
Беларускага Нацыянальнага
Камітэту
На Амэрыканск. Зону Нямеччыны
**М. Міцкевіч**

Урад Згуртаваньня
Беларускіх Настаўнікаў на Эміграцыі
Старшыня: **Рагажэцкі**

**Беларусы! Будуйце будучыню сваіх дзяцей! Падтрымлівайце Студэнцкі Стыпэндыяльны Фонд пры ЦБЦА!**

### ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

**Управы Студэнцкага Стыпэндыяльнага Фонду**

Гэтым падаецца да ведама, што на І-ае паўгодзьдзе 1949 г. прадугледжана 10 стыпэндыяў. Заявы просім складаць (згодна із Статутам ССФ) на рукі старшыняў сваіх Беларускіх Студэнцкіх Згуртуваньняў да 20. 10. 1948 г.

Управа ССФ пры ЦБСА.

### П А Д З Я К А

**Управы Студэнцкага Стыпэндыяльнага Фонду пры ЦБСА**

Управа Студэнцкага Стыпэндыяльнага Фонду пры Цэнтралі Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў на Чужыне складае шчырую падзяку ўсім тым, якія падтрымалі Фонд новымі маркамі, і выражае надзею, што да часу выплаты стыпэндыяў кажны Беларус зложыць ахвяру на Фонд і гэтым дасьць магчымасьць нашай моладзі прадаўжаць распачатыя студыі.

Дагэтуль на Фонд злажылі:

| | |
|---|---|
| 1. Др. Гайдзель Пётра | 5 н. м. |
| 2. ацец Леў Гарошка (Францыя) прагнеты на | 30 н. м. |
| 3. лягер Майнлеус | 66 н.м. |
| 4. лягер Міттэнвальд | 50 н. м. |

Няхай ня будзе ў беларускім грамадзянстве ніводнае асобы, якая хоць-бы дробнай ахварай не памагала нашым студэнтам перaтрываць гэты цяжкі час!

Управа ССФ пры ЦБСА.

### АД АДМІНІСТРАЦЫІ

Адміністрацыя газэты «Бацькаўшчына» зьвяртаецца да ўсіх сваіх падпішчыкаў з наступнымі просьбамі:

1. Усю карэспандэнцыю для редакцыі й адміністрацыі слаць на адрас редакцыі ў Остэргофэне, а не на адрас друкарні.
2. Для карэспандэнцыі, патрабуючай пісьмовага адказу, неабходна залучыць паштовую марку.
3. Сваячасова падаваць да ведама адміністрацыі зьмену адрасу, як пры зьмене месца жыхарства ў Нямеччыне, так і пры эміграцыі.
4. Сваячасова й рэгулярна аплачваць належнасьць за газэту, каб ня было перапынкаў у яе высылцы.

**Адміністрацыя.**

**Вышаў з друку**
**«САКАВІК»**
**№ 2 (3) за 1948 г.**

У нумары: вершы Алеся Салаўя, Рыгора Крушыны, Натальлі Арсеньневае, Уладзімера Клішевіча, Масея Сяднёва, проза Максіма Багдановіча, Ніны Змагаркі, С. Юстапчыка, Сьвітазянкі, артыкулы У. Глыбіннага, проф. др. А. Бэра, С. Д., таксама пераклады вершаў М. Багданоовіча панямецку.

**Цана 1 м. 20 фэн.**

Выпісваць праз адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

### ПАДЗЯКА

**Рэдакцыя шчыра дзякуе ўсім тым нашым Грамадзянам, якія ў гэты цяжкі для нас мамэнт падтрымалі грашова газэту. Асаблівая й найбольш гарачая нашая падзяка належыцца слаўнай «Дванаццатцы», якая, працуючы на шахтах у Англіі й праводзячы там беларускую грамадзкую працу, не забылася й аб нашых патрэбах і найбольш выдатна падтрымала «Бацькаўшчыну».**

**Whiteruthenian Weekly „The Fatherland"**
Autorized by EUCO M Hq. Civil Affairs. Division 20 July 48, Nr. UNDP 225. Circulation 3500 copies.
Administration — (13b) Osterhofen, Ndby., Whiteruthenian.
D. P. Camp.
Edited by: Whiteruthenian National Committee.
Printed by: Georg Jakob, München 8, Pütrichstraße 3a.